# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 11 (1609) ГОД XXXII БЕЛАСТОК 15 САКАВІКА 1987 г. ЦАНА 12 зл.


## РАЗНАРОДНАСЦЬ — ГЭТА ХАРАСТВО



**Размова з Томасам Бэрдам, навуковым супрацоўнікам славістыкі Нью-Йоркскага універсітэта (ЗША), удзельнікам Міжнароднай канферэнцыі, прысвечанай трыццацігоддзю Кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта.**

**Пытанне:** Факультэт русістыкі і прыкладной лінгвістыкі Варшаўскага універсітэта запрасіў Вас на Міжнародную навуковую канферэнцыю, прысвечаную трыццацігоддзю Кафедры беларускай філалогіі. Як вы аднесліся да гэтага запрашэння і якое ўражанне зрабіла на вас канферэнцыя?

**Адказ:** Запрашэнне на канферэнцыю, прысвечаную трыццацігоддзю Кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта, было для мяне вялікай нечаканасцю. І таму не магу паўстрымацца ад удзячнасці тым асобам, якія мяне запрасілі. Маю тут на ўвазе дэкана факультэта А. Барташэвіча і загадчыка кафедры А. Баршчэўскага. Беларусаведы ў ЗША сачылі за развіццём Кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта і, зразумела, свой удзел у канферэнцыі прысвячаюць гэтай навуковай пляцоўцы, трактуючы яе як справу вельмі карысную і ганаровую. На канферэнцыі я выслухаў 10 дакладаў і дзесяць паведамленняў і хачу падкрэсліць, што ўсе яны зрабілі на мяне вельмі добрае ўражанне. Даклады і паведамленні краналі шырокае кола беларусазнаўчых праблем, якія маюць вялікае значэнне для беларусаведаў ва ўсім свеце. З вялікай увагай я выслухаў даклад аб гісторыі Кафедры беларускай філалогіі, даведаўся пры нагодзе пра многія невядомыя мне дагэтуль факты і быў сведкам глыбока кранаючай урачыстасці — уручэння арганізатару і першаму кіраўніку кафедры праф. А. Абрэмбскай-Яблонскай медаля Варшаўскага універсітэта.

**Пытанне:** Вы выступілі на канферэнцыі з дакладам: Роля „Нашай нівы" ў развіцці беларускай нацыянальнай свядомасці. Чаму якраз такую тэму Вы выбралі для даклада?

**Адказ:** Я ўжо некалькі гадоў займаюся вывучэннем „Нашай нівы". Не можа быць сумненняў, што гэты тыднёвік адыграў аграмадную ролю ў гісторыі беларускага народа. Не ўсе аспекты гэтай ролі дагэтуль вывучаны. Асабліва адносіцца гэта да ролі ў галіне развіцця беларускай нацыянальнай самасвядомасці, а таксама беларускага літаратурнага адраджэння. Спатрэбяцца яшчэ многія гады для таго, каб як найглыбей вывучыць усе аспекты дзейнасці „Нашай нівы". Чым болей будзе вучоных, і то вучоных з розных краін — трэба памятаць, што „Наша ніва" займалася не толькі беларускай праблематыкай, але і жыццём многіх народаў свету, — якія зоймуцца вывучэннем „Нашай нівы", тым цікавейшыя будуць вынікі іх даследаванняў. Я ў сваім дакладзе стараўся прадставіць уласныя назіранні і вывады, звязаныя з вывучэннем славутага беларускага тыднёвіка.

**Пытанне:** Вы карэнны амерыканец, наколькі нам вядома без славянскай дамешкі крыві. Што Вас прывяло да беларусазнаўчых зацікаўленняў?

**Адказ:** Мае продкі — валійцы. Мая бабка размаўляла толькі на валійскім дыялекце. Якраз яна заштапіла мне любоў да розных народаў і розных моваў. І гэта першая прычына маіх беларусазнаўчых зацікаўленняў. Другую прычыну бачу ў паставе майго бацькі, які цікавіўся міжнароднымі адносінамі. Гэта ён моцна мяне заахвочваў зацікавіцца Расіяй і рускай мовай. Выканаўшы запавет бацькі, я пайшоў далей — пачаў цікавіцца Беларуссю і

(Працяг на стар. 6)

## З ПАЕЗДКІ Ў БССР

## БАЦЬКА МІНАЙ

Вярталіся мы ў Віцебск. Галава шумела ад уражанняў з пабыўкі над возерам Вымна.

За вокнамі аўтамабіля мільганўў нейкі ўказальнік з назвай мясцовасці.

— Вось у гэтых краях нашай Віцебшчыны, — адазваўся Уладзімір Пятровіч, мой віцебскі сябар, — праславіўся партызанскімі подзвігамі Бацька Мінай.

Ён ведаў, што я цікаўлюся гісторыяй партызанскай барацьбы беларускага народа. Віцебшчына ў гэтай гісторыі запісала не адну залатую старонку. Ад першых дзён гітлераўскай акупацыі яна праявіла сваю непакорлівую душу. Хто не чуў пра **Веру Харужую!** Бывала яна і ў Беластоку яшчэ ў даваенны час. Тут яе судзілі ў славутым працэсе 133-х камуністаў (красавік-май 1928 года). У Беларускай Савецкай Энцыклапедыі пра Веру Харужую, між іншым, чытаем:

*...У першыя дні Айчыннай вайны (яна) партызанка атрада В. З. Каржа. Каб наладзіць сувязь партызан з камандаваннем Чырвонай Арміі, Харужая ў жніўні 1941 года перапраўлялася цераз лінію фронту. З вясны 1942 г. у апараце ЦК Кампартыі (бальшавікоў) Беларусі ў Маскве. У верасні 1942 года, пакінуўшы малых дзяцей на выхаванне сястры, на чале групы накіравалася ў варожы тыл. Стварыла і ўзначальвала групу ў віцебскім камуністычным падполлі...*

На жаль, віцебскі перыяд яе жыцця, хаця таксама геройскі, як і ўсе іншыя, закончыўся трагічна. Фашысты арыштавалі яе ў час прабывання на явачнай кватэры і замучылі на смерць.

Ведаў я таксама і аб правадыры аршанскіх падпольшчыкаў, якія пад камандай **Канстанціна Заслонава** столькі нерваў і тэхнікі напсавалі акупанту! Чуў пра генерала **Даватара,** які на чале сваіх чырвонаармейскіх коннікаў адважна разганяў тылавыя фашысцкія гарнізоны. Даводзілася пазнаёміцца з подзвігамі стогадовага партызана **Дзеда Талаша...** Уладзімір Караткевіч у сваёй цудоўнейшай кніжцы *„Зямля пад белымі крыламі"* сцвярджае:

*„У некаторых мясцінах не ступіла нага немца. Не пусцілі. Там працавалі нашы ўстановы, саўгасы, ішлі заняткі ў школах. Пра ўсіх расказаць немагчыма. Вось толькі некаторыя. Канстан-*

(Працяг на стар. 6)

## ЧАГО СПАДЗЯВАЦЦА АД 1987 ГОДА

Ад пачатку студзеня г.г. абавязвае нас, жыхароў Беласточчыны, ваяводскі гадавы грамадска-гаспадарчы план. Зацвердзіла яго Ваяводская рада нарадовая на сваёй першай у 1987 годзе звычайнай сесіі, якая была склікана 27 студзеня. Праект гэтага плана, вядома, падрыхтавалі выдатныя спецыялісты (так трэба спадзявацца) з Ваяводскай камісіі па планаванню. Бралі яны за аснову з аднаго боку актуальныя і рэальныя магчымасці, а з другога боку — аграмадныя патрэбы жыхароў ваяводства, выяўленыя ў той час, калі праходзілі ў нас вялікія палітычна-грамадскія кампаніі. Думаю тут перш за ўсё пра падрыхтоўку да выбараў у рады нарадовыя і ў Сейм, а таксама і аб даз'ездаўскай усенароднай дыскусіі, у якой удзельнічалі мы больш-менш год таму назад.

Я прыслухоўваўся да выступленняў ваяводы, **Мар'яна Галы,** а таксама і да выказванняў прадстаўнікоў паасобных палітычных партый і груповак, якія маюць свае прадстаўніцтвы ў ВРН (клубы радных ПАРП, ЗСЛь, СД, ПАКС) і звычайных радных, якія прасілі аб голас проста з залы. Вялікіх засцярог або патрабаванняў, каб карэнна змяніць ці пераапрацаваць гэты план, ад нікога не пачулася. Усе выступаючыя былі згодныя ў адным: **грамадска-гаспадарчы план на 1987 год адпавядае нашым, на жаль, скромным магчымасцям, а не нашым патрэбам.** І ўсе гэтага шкадавалі. Першы выказаў такое шкадаванне беластоцкі ваявода. Адным словам, гаспадар так хлеб ды сала дзеліць, як яму на падзел хапае.

Надзяліць прыдзецца 682 тысячы чалавек. Такая ўжо зараз у нас ваяводская сямейка. На працягу аднаго года за супольным сталом давялося даставіць 5300 месц для новых членаў гэтай сям'і. Перш за ўсё ў гарадах, бо з вёсак надалей людзі ўцякаюць, як ад заразлівага паветра, хаця з паветрам справа маецца якраз наадварот, бо ў вёсках нашых яно пакуль што яшчэ даволі чыстае, а тое цяжка сказаць аб заасфальтаваных, засмуроджаных аўтамабільнымі выхлапнямі нашых нешматлікіх гарадах. Нягледзячы на тое, беластоцкая вёска зноў паменшала амаль на 3000 чалавек і зараз у межах Беласточчыны на аднаго селяніна прыходзіцца крыху болей, чымсьці паўтара жыхара горада. У раёнах, дзе жывуць у асноўным беларусы, гэтыя прапорцыі яшчэ горшыя, вядома, у некарысць вёскі. Адначасова пастаянна прыбывае нам пенсіянераў, рэнтыстаў,

(Працяг на стар. 4)

 




# АБ КУРЦАХ (2)

А як яно пачынаецца гэтае курэнне? Найчасцей вельмі бязвінна. Як правіла, у школьных туалетах, дзе вучні пацягнуць раз-другі. Праўда, ёсць немалая група дзяцей, якія ў школе не паддаюцца гэтай заразе. Аднак гэта не значыць, што ім ужо нішто не пагражае. Многія з іх пачнуць курыць тады, калі пойдуць на танцы, бо ім трэба чымсьці заняць рукі, бо сігарэта дапамагае, калі няма чаго сказаць партнёрцы, бо сігарэта — добры пасрэднік пры завязванні знаёмства і г.д.

Вядома, што курэнне — гэта форма хваробы і таму ў ніякім выпадку нельга кпіць і насміхацца з таго, хто „захварэў". Чуў я не раз ад людзей, якія прайшлі праз лагеры аб тым, што найбольшай бядой для вязняў быў недахоп табаку, большай, чым нястача хлеба. Здаралася вельмі часта, што курцы выменьвалі свае мізэрныя пайкі хлеба на сігарэты, паскараючы такім чынам надыход уласнай смерці.

Мяне найбольш палохае тое, што ўсё болей узрастае колькасць дзяўчат-курыльшчыц. На жаль, сярод іх нямала і з Беласточчыны. Некаторым з іх здаецца, што пайшоўшы ў Варшаву, ім нельга не курыць, бо курэнне — гэта адзнака элегантнасці, культуры, незалежнасці. Ну дык і кураць. Дарэчы, часта кураць вельмі добрыя сігарэты, якія каштуюць па некалькісот злотых за пачак.

Акрэсленне „добрыя сігарэты" выклікае ў мяне адназначна адмоўныя пачуцці, бо вядома, што такія словы ў адносінах да атруты не павінны ўжывацца. Думаю, што справа фінансавага кошту курэння ў параўнанні з коштам здароўя з'яўляецца справай другараднай. Другараднай, але не няважнай. Калі возьмем пад увагу, што курэц, які курыць сігарэты па 50 злотых, выдаткоўвае ў месяц 1500 злотых, дык вядома, што ў год расходуе ён на курыва каля 20000 злотых. За такую суму пакуль што можна купіць два мужчынскія касцюмы, або касцюм і тры пары давалі добрых ботаў. Аднак яшчэ раз паўтараю, справа перад усім у здароўі. А тым усім, каму здаецца, што яны прыгажэйшыя, аўтарытатнейшыя ці больш дарослыя таму, што кураць, адкажу: усё гэта толькі зман, толькі міф, які не мае нічога супольнага з праўдай. Курачы, не выігрываем нічога, а праігрываем калі не ўсё, дык многае.

Чаму ўвогуле аб гэтай праблеме пішу. Калі, як некаторым здаецца, напісанае мною не будзе мець ніякага практычнага значэння, прызнаюся, што не веру ў такую сілу, у такую магію свайго „На мяжы", якая магла б выклікаць масавы адыход чытачоў ад курэння. Аднак ведаю асабіста многіх учарашніх курцоў, якія кінулі сігарэты сёння. Зразумела, што кінулі не таму, што я ім гэта падказаў, а толькі таму, што яны падключылі ў гэтую справу сваю сілу волі, сваю ўнутраную рашучасць. Сярод гэтых асоб знаходзіцца і адна пані, якая, як кажа, кінула курыць з-за мяне. Хто ведае, можа гэта найвялікшае дасягненне майго жыцця? Гэта ж не жартачкі — адвясці чалавека ад пропасці.

Курцы, падумайце так: калі кінулі курыць тыя, аб якіх піша Барскі, дык кінем і мы. І хай яно так станецца. А тады аблок атрутнага дыму над нашай Беласточчынай паменшыцца, і вы, звяртаюся да мужчын, праявіце намнога большую, чым дагэтуль, інтымную энергію пры жонках. Варта!

**Алесь Барскі**




### НОВЫ МІКРАРАЁН МІНСКА

1.636 сем'яў мінчан сталі жыхарамі новага мікраёна беларускай сталіцы — Паўднёвы Захад-5. Паводле „Звязды", навасельцам не прыйшлося, як гэта было раней сутыкнуцца на новым месцы з многімі праблемамі: уладкаваннем дзяцей бліжэй да дому, выкройваннем часу на паездкі за прадуктамі. Будаўнікі Мінскага вытворчага аб'яднання індустрыяльнага домабудавання вядуць забудову жылога масіву комплексна. І юныя навасельцы адразу пачалі хадзіць у дзіцячы сад і школу на месцы жыхарства. У новай школе прасторныя і светлыя кабінеты, утульныя спальні і пакоі для гульні для нулявых класаў, дзве спартыўныя залы. Як заўважае газета, школа стала сапраўдным культурным цэнтрам мікрараёна — колькасць членаў клуба выхаднога дня, створанага пры ёй, расце з кожным днём.

### БУЙНЫМ ПАСТАЎШЧЫКОМ МАЛАДНЯКУ

стане селекцыйна-гібрыдны цэнтр, першая чарга якога ўступіла ў строй у саўгасе-камбінаце „Васілішкаўскі" на Гродзеншчыне. Магутнасці яго разлічаны пакуль што на атрыманне 7 тысяч парасят высокапрадукцыйных парод. З поўным завяршэннем у гэтай пяцігодцы будаўніцтва цэнтр будзе пастаўляць гаспадаркам вобласці ўтрая больш маладняку і адкормліваць 50 тысяч свіней у год. У выніку пераводу гадоўлі на прамысловую аснову ўдзельная вага свініны ў агульным аб'ёме вытворчасці мяса дасягнула ў мінулым годзе на Гродзеншчыне 29 працэнтаў.

### УСТУПІЎ У СТРОЙ ЦЭХ

Палепшыць камплектацыю зборачнага канвеера КамАЗа прадукцыя барысаўскага завода аўтатрактарнага электраабсталявання. Тут уступіў у строй цэх па выпуску стартэраў для дызельных рухавікоў.

### „ПРЫРОДА БЕЛАРУСІ"

Выдавецтва „Беларуская Савецкая Энцыклапедыя" выпусціла ў свет масавым тыражом аднатомную энцыклапедыю „Прырода Беларусі". Добра афармленая кніга змяшчае больш як 5,7 тысячы артыкулаў аб мінералах і горных пародах, асаблівасцях рэльефу і ландшафтах, карысных выкапнях, надвор'і і клімаце, рэках, азёрах і вадасховішчах, жывёльным і раслінным свеце, помніках прыроды рэспублікі.

### НА КАНВЕЕРЫ — ЧАЙ

У кароткі тэрмін здолелі змяніць профіль вытворчасці работнікі былога вінаробнага камбіната Віцебска. Рэкантруяваўшы цэхі, яны прымусілі большую частку машын працаваць на новага спажыўца. Тут пачалася прадукцыя духмянага чаю васьмі назваў. „Лясны водар", „Лучасянка", „Дзвінскі", „Бярэзінскі" прыгатаваны на аснове мясцовых дзікарослых траў, а „Тонус", „Летні", „Духмяны" і „Мятны" — з чорнага байхавага чаю. Усе яны маюць прыгожую ўпакоўку.

### СПОРТ

■ Мінск не выпадкова стаў месцам правядзення чэмпіяната СССР і ўсесаюзных спаборніцтваў на прызы газеты „Комсомольская правда" па скачках у ваду. Папершае, умовы ў палацы воднага спорту — проста выдатныя. А па-другое, і сёння, як і раней, тон у зборнай Савецкага Саюза задаюць выхаванцы беларускай школы скачкоў у ваду. Гэта алімпійскі чэмпіён Аляксандр Партноў, чэмпіёнка Еўропы Анжэла Стасюлевіч, трохразовы ўладальнік залатых узнагарод першынстваў СССР Аляксей Когалеў, чэмпіён апошняй Спартакіяды народаў СССР Аляксандр Гладчанка. Амаль што палавіна зборнай краіны. У сёлетнім чэмпіянаце краіны, які нядаўна закончыўся ў Мінску, мацнейшым сярод мужчын быў мінчанін Аляксандр Партноў. ■ На чэмпіянаце Савецкага Саюза па боксу, які закончыўся ў Каўнасе, паспяхова правёў паядынкі на рынгу прадстаўнік Беларусі 29-гадовы дынамавец з Віцебска Вячаслаў Яноўскі. Выступаючы ў першай паўсярэдняй вагавой катэгорыі, ён стаў чэмпіёнам Савецкага Саюза. ■ Фаварытам чэмпіяната Савецкага Саюза па дзюдо, які прайшоў у Ленінградзе, лічыўся мінчанін, трохразовы чэмпіён кантынента Віталь Пясняк. Аднак ён і яго зямляк Алег Шапчыц падзялілі ўсяго толькі пятае-шостае месцы.

### НЕ ТОЛЬКІ ФІЛЬМ

Нядаўна ў Гродне адкрыўся новы кінатэатр „Октябрь". Тры залы кінатэатра даюць магчымасць не толькі дэманстраваць розныя па тэматыцы і жанрах фільмы, але і праводзіць выхаваўчую работу са слухачамі.

— Мы стараемся не абмяжоўваць сваю работу дэманстрацыяй фільмаў, — заявіла ў „Гродненской правде" намеснік дырэктара кінатэатра С. Дзявайкіна, — суправаджаем прэм'еры цікавымі сустрэчамі, гутаркамі, міні-канцэртамі.

Для гродзенцаў у кінатэатры арганізуецца кінаклуб „Субяседнік" і кіналекторый „Я помню дзіўнае імгненне".

### НА ЛЮБЫ ГУСТ

Спецыялізаваны магазін для індывідуальных забудоўшчыкаў „Наш дом" адкрыўся ў Магілёве. Тым, хто вырашыў будаваць жылы дом або дачу, прапануюцца ўзоры выраба́ў звыш трохсот назваў. Гэта загатоўкі з дрэва, цэгла, газасілікатныя блокі, цэмент, абліцовачная пліткa, руберойд (папа), металавырабы, інструменты і многае іншае. Пакупнік у магазіне расплачваецца за тавар, і на гэтым яго клопаты заканчваюцца. Усё астатняе бяруць на сябе гандаль і трансагенцтва.




### БЕСПАВЯРХОВАЯ АМЕРЫКА

Паводле даных ААН, бяздомных у свеце каля 180 мільёнаў чалавек. Большасць іх жыве ў краінах Азіі, Афрыкі і Лацінскай Амерыкі. Аднак памылкова было б думаць, што жыллё — запаветная мара толькі ў маладых краінах. Амерыканская „Кааліцыя дапамогі бяздомным", іншыя дабрачынныя арганізацыі сцвярджаюць, што ў самай багатай капіталістычнай дзяржаве не маюць жылля 4 мільёны чалавек. Колькасць амерыканцаў, для якіх домам становіцца вуліца, пастаянна расце. Штогод яна павялічваецца ў сярэднім на 38 працэнтаў. 10 працэнтаў бяздомных беспрацоўныя. 40 працэнтаў агульнай колькасці — сем'і, якія жывуць у вялікіх гарадах. У ЗША любяць рэкорды, шмат пра іх пішуць. Але не аб усіх. Сумны рэкорд па колькасці бяздомных належыць Нью-Йорку — 60 тысяч чалавек. Далей ідуць Лос-Анджэлес (50 тысяч), Чыкага (больш 40 тысяч), Філадэльфія (16 тысяч), Дэтройт (13 тысяч) ...Спіс можна прадоўжыць — у Амерыцы практычна не знойдзецца горада, дзе жыллё было б даступнае кожнаму. Нямногім лепшая сітуацыя і ў іншых развітых капіталістычных дзяржавах. У ФРГ, напрыклад, даху над галавой не маюць 100 тысяч чалавек, у Англіі — каля 100 тысяч. У той жа час дзесяткі, сотні тысяч жылых будынкаў у гэтых краінах пустуюць. У адным толькі Нью-Йорку каля 10 тысяч пустых дамоў, у якіх не заселены прыкладна 100 тысяч кватэр. Яны не па кішэні большасці з тых, каго выкідаюць на вуліцу па розных прычынах або хто пазбаўлены жылля ў выніку стыхійных бедстваў. А такіх, паводле даных камітэта палаты прадстаўнікоў кангрэса ЗША, да 2,5 мільёна чалавек. Такая сітуацыя ў развітых, багатых краінах. Што ж тады гаварыць аб маладых, тых, якія жывуць у доўг...

1987 год аб'яўлены ААН Міжнародным годам забеспячэння жыллём бяздомных. Для многіх з іх ён стане годам надзеі. Але ці збудзецца яна? У мінулым жа годзе Пентагон выдаткаваў каля 300 мільярдаў долараў. Дзесятай часткі гэтых сродкаў хапіла б, каб даць дах усім бяздомным амерыканцам.

(АДН)



 

# ПРЫСУТНАСЦЬ

студэнцкая старонка

## РАЗВАЖАННІ ПЕРАД З'ЕЗДАМ

Напярэдадні з'езда выпадае сказаць некалькі слоў пра наш рух. Неўзабаве ж засядзем пры „супольным стале“, каб шчыра і адкрыта пагаварыць, каб высвятліць — што далей? Якімі метадамі карыстацца ў будучыні, каб наш студэнцкі рух быў больш эфектыўны, больш вядомы, цікавейшы і, бадай, сур'ёзнейшы? Як узрушыць „скамянелыя сэрцы“ многіх з нашых аднагодкаў-беларусаў?

Вось на гэта ды іншыя пытанні павінен адказаць з'езд беларускіх студэнтаў. На ім будуць напэўна прыняты канкрэтныя пастановы, якіх ажыццяўленне станецца абавязкам кожнага з нас. Кожнага, бо ж гэта справа вялікай вагі і адказнасці перад родным! Выпадае над гэтым задумацца, перааналізаваць нашу дзейнасць — што было ў ёй пазітыўным, якія былі і ёсць перашкоды.

Беларускі студэнцкі рух у сучаснай Польшчы, як вядома, паўстаў на пачатку 1981 г. як вынік тагачасных, агульнапольскіх падзей. Сёння спаўняецца шэсць гадоў нашаму руху. На працягу іх меў ён свае поспехі і паражэнні.

Несумненна, да поспехаў трэба залічыць заснаванне ўласнай, студэнцкай арганізацыі ў рамках ЗПС (вясна 1983 года). А гэта ў сваю чаргу стварыла магчымасць разгарнуць даволі шырокую дзейнасць. Наяўныя яе прыклады былі і ёсць: шматлікія рэйды-паходы, у тым ліку і за мяжу, штогадовыя „атрасіны“ студэнтаў-першакурснікаў, навуковыя семінары, вечарынкі-лекцыі, „запусты“, навагоднія балі ды і бадай самае найважнейшае — заснаванне ўласнага студэнцкага беларускага выдання („Сустрэчы“ — другі афіцыйны беларускі часопіс у Народнай Польшчы). Але гэта не ўсё. Беларускі студэнцкі рух не абмяжоўваецца толькі і выключна „ЗПСаўскай шыльдай“. Шмат было спантаннай, зусім не арганізаванай дзейнасці, якая вынікала з патрэбы сэрца. Да гэтага можам залічыць: намаганні ўвесці беларускую мову ў царкву, святкаванні гістарычных угодкаў, Купалле, ці хаця б масавы ўдзел у іншых, нестудэнцкіх, беларускіх імпрэзах і г.д.. Гэта ўсё ўрокі самаўсведамлення, урокі на шляху да здабыцця пачуцця нацыянальнай гордасці. Вобраз гэтага пераліку, безумоўна, цешыць кожнага патрыёта. Але ёсць яшчэ і другі вобраз — вобраз паражэнняў ды адмоўных з'яў, якія ўсё не змаглі пераадолець. І гэта трывожыць.

Дзве галоўныя з'явы паралельныя і ўзаемна залежныя: вялікая абыякавасць многіх з нас ды нізкі ўзровень нацыянальнай свядомасці. Што выклікае гэткія з'явы? Ці толькі і выключна якісьці неакрэслены страх, а мо звычайная лянота, ці непахвальная спадчына ад папярэдніх пакаленняў беларусаў, або недахопы ў сферы выхавання? Бадай усе гэтыя прычыны выступаюць разам. Таму і нашым абавязкам ёсць змаганне з такімі з'явамі. Перакананне абыякавых ды ўсведамленне адсталых — толькі як? Дагэтуль рэзультат нашай працы, праўда, ужо відавочны, але яшчэ не такі, як трэба. Варта над гэтым глыбей падумаць. Іншая праблема — гэта недастатковая інфармацыя ў нашым асяроддзі. Кульгаем мы тут даволі моцна, і выхад, як дагэтуль, не знойдзены. Ці сапраўды мае гэтак быць? Ці надалей левая рука не будзе ведаць аб тым, што робіць правая і наадварот? Варта і над тым падумаць, бо і ў гэтым адна з прычын нашых няўдач.

У сваім часе вяліся намаганні ўвядзення беларускай мовы ў царкве. На жаль, гэта закончылася няўдачай з прычын, зразумела, „аб'ектыўных“, але перш за ўсё суб'ектыўных, значыць, залежных ад нас саміх. Ужо даўно было сказана, што найбольшымі ворагамі беларускасці з'яўляюцца самыя беларусы. У гэтым выпадку так сапраўды і было.

Пішучы пра адмоўныя з'явы, выпадае ўспомніць і пра недахоп ахвярнасці ды пэўную безадказнасць нашых людзей. Несур'ёзны падыход многіх з нас да справы напэўна не спрыяе дзейнасці. Зразумела, нават непаслядоўнасці ці хістанні на шляху да нейкай канкрэтнай мэты надта перашкаджаюць, бываюць часта звычайным тормазам. Шкада толькі, што гэта так цяжка зразумець і то людзям адукаваным, свядомым.

І чарговыя перашкоды. Дысцыпліна ці інакш кажучы: паслухмянасць, даверанасць больш вспытным, аўтарытэтным сябрам. З гэтым таксама ў нас не найлепш. Дэмакратыя не характарызуецца тым, што кожны робіць, што хоча і як хоча, бо гэта ўжо анархія. А паміж адным і другім мяжа даволі пераходная і далікатная. Часта трэба пільна зважаць, каб не пераступіць яе...

І наканец яшчэ адно — маральна-этычныя паводзіны кожнага з нас упаасобку. Гэтай справы не буду разглядаць шырэй. Кожны, інтэлігентна дума-

(Працяг на стар. 5)

### Тлумачальны слоўнік беларускіх студэнтаў

**Гастролі** — (рускае „гастролі“) беларускамоўнае слова, якое абазначае выступленне ці „турнэ“ якогасьці музычнага калектыву ці тэатру. У моўнай практыцы беларускіх студэнтаў яно абазначае двух-трохдзённы в і з і т варшаўскіх студэнтаў у Беластоку і рэвізіт беластоцкіх сяброў хаця ў крыху меншым маштабе. Гастролі прыносяць іх удзельнікам змешаныя пачуцці: ад тупіку ў поўнай галечы па радаснае ўваскрошанне.




## КАМУ ГЭТА ПАТРЭБНА?

Відавочны (меней ці болей) ад некалькіх гадоў уздым у студэнцкім руху павінен цешыць кожнага. Адбываецца гэта за справай нешматлікіх маладых людзей, у якіх ёсць яшчэ ахвота нешта рабіць (нягледзячы на грамадскую пасіўнасць старэйшых пакаленняў і сваіх сяброў). На жаль, да і так малой жменькі людзей, як дзейнасці, у апошнім часе вельмі рэдка ўключаюцца студэнты-першакурснікі. Гэта вельмі небяспечная справа, і некаторыя, каму не залежыць на развіцці працы беларускага студэнцтва, гавораць, што наш рух — гэта толькі тэрміналогія і больш нічога. Чуецца таксама закіды (за плячыма) у адрас некаторых студэнтаў у Варшаве і Беластоку, быццам:

1. „зачаста“ яны гавораць па-беларуску, паказваючы такім чынам на нас, што мы беларусы, ужо не толькі перад сябрамі і ў нашым інтэрнацкім пакойчыку, але нават у цягніку, тэатры, кіно. Калі навокал усе палякі, навошта нам гаварыць з сябрам па-беларуску, лепш маўчаць, а ў душы астацца беларусам — гэта найважнейшае;

2. што не існуе ніякая Рада культуры студэнтаў беларускай нацыянальнасці (РКСБН), а толькі група людзей так званай „узаемнай адарацыі“, якая нікога да сябе не дапускае;

3. аб усім, што робіцца (рэйды, атрасіны і іншыя мерапрыемствы) няма нідзе ніякіх паведамленняў.

Дарагія мае, думаю, што з'езд беларускага студэнцтва ў Польшчы, які адбудзецца ў Бельску 27-29 сакавіка 1987 г. адкажа на многія пытанні, праблемы, якія выраслі ў нашым асяроддзі. З'езд будзе адкрыты для ўсіх студэнтаў, арганізуе яго РК СФН. Аб з'ездзе будуць інфармаваць лістоўкі, паведамленні ў „Ніве“. Абавязкам кожнага з нас паведамляць усіх сваіх сяброў-студэнтаў, якія вучацца ва універсітэтах цэлай краіны.

На маю думку дні і ночы з'езда будуць плённымі ў дыскусіі (толькі па-беларуску). Мо нарэшце можна будзе паглядзець, ці мы з'яўляемся нейкай сілай, з якой будзе карысць беларускай нацыянальнасці ў Польшчы.

Ці спаткаемся з сябрамі з Любліна, Гданьска, Ольштына, Вроцлава, Кракава? На вусны ціснецца шмат пытанняў, адказы на якія атрымаем на форуме з'езда.

Не дай Бог, калі з'езд не адбудзецца з прычыны малой колькасці ўдзельнікаў!.. Думаю, што гэтыя два дні не перашкодзяць вам у падрыхтоўцы да школьных заняткаў, у вашых прыватных справах, запланаваных спатканнях з найдаражэйшым ці найдаражэйшай, ці маг-

(Працяг на стар. 4)

ПРЫСУТНАСЦЬ
студэнцкая старонка

Старонку падрыхтавалі: Яўген Вапа, Мікола Ваўранюк, Юрка Ляпчынскі, Валянцін Сельвесюк і Лёнік Тарасэвіч.

# МАЛОЧНАЯ РАКА

Малочнай ракі не ўбачыш у яе рэчышчы. Яе трэба ўявіць. Плыве яна праз Акружны спулдзельчы малочны завод у Бельску-Падляшскім, які папулярна завецца малачарняй. Ручаі гэтай ракі маюць свае вытокі ў сялянскіх сялібах навакольных вёсак. Адзінаццаць тысяч пастаўшчыкоў на Бельшчыне ў мінулым годзе прадалі дзяржаве дзевяноста мільёнаў трыццаць тысяч літраў малака.

Струмені ў гэтую малочную раку ўплываюць таксама з акружных спулдзельчых малачарняў Беластока, Гайнаўкі, Сямяціч, Монькаў і Дубровы Беластоцкай. Бельская малачарня ў 1986 годзе купіла ў іх сорак мільёнаў трыста дзесяць тысяч літраў худога малака. Значыць, у мінулым годзе праз бельскую малачарню праплыло сто трыццаць мільёнаў трыста сорак тысяч літраў малака. Гэта адзіная на Беласточчыне і адна з некалькіх у краіне малачарань, якія маюць магчымасць такую велізарную колькасць малака перапрацоўваць на розныя прадукты.

Адзін з галоўных асартыментаў вытворчасці бельскіх малачароў — гэта масла. У мінулым годзе яго выпрадукавалі больш за чатыры тысячы тон. Яно значна лепшае, як з іншых малочных камбінатаў. Аб гэтым сведчаць акты: у 1984 годзе на краёвай ацэнцы якасці масла бельская малачарня заняла першае, а ў 1986 годзе — другое месца (у 1985 годзе такая ацэнка не праводзілася).

Да другога асноўнага асартыменту прадукцыі бельскай малачарні належыць малочны парашок. На працягу мінулага года яго нарыхтавалі дзесяць тысяч восемсот тон. Яго экспартуюць у асноўным у Японію (6 тыс. 400 тон). Экспарт вельмі выгадны, даходны, дае дэвізы і сведчыць таксама аб высокай якасці прадукцыі. Не без значэння тут і тое, што бельскую „парашкоўню“ малака па апошняму слову тэхнікі пабудавалі італьянцы ў 1974 годзе, а ўсё аснашчэнне было куплена ў Даніі. Самыя сучасныя машыны і абсталяванне разам з заангажаванымі людзьмі і іх адданасцю для прадпрыемства — гэта рашаючыя фактары высокай якасці вытворчасці.

Апрача масла і малочнага парашку, які пераважна выкарыстоўваецца ў кандытарскай прамысловасці, бельская малачарня вырабляе так званую малочную галантарэю. У 1986 годзе яе было выпрадукавана: 402 тоны тварагу, 441 т жоўтых сыраў, 413 тысяч літраў смятаны і тры мільёны 447 тысяч літраў спажыўнога малака.

Агульная вартасць мінулагодняга продажу прадукцыі бельскай малачарні склала суму тры мільярды сто шэсцьдзесят тры мільёны злоты. Выпрацаванага даходу малачарня атрымала больш як дзвесце мільёнаў зл. (у гэтую суму ўваходзіць і 65 прац. падатку, які ідзе ў дзяржаўную скарбонку).

Атрыманы даход пераважна прызначаецца на інвестыцыйныя патрэбы, а на якія і колькі — аб гэтым вырашае агульны сход членаў малачарскай спулдзельні).

Малачарня ад пачатку свайго існавання, гэта значыць ад 1956 г., увесь час разбудоўваецца, мадэрнізуецца, аднаўляе машыны і абсталяванне, паляпшае ўмовы працы людзей. Яна цяпер не падобная да той, якою была ў пяцідзесятыя гады. Яе вытворчыя магутнасці павялічыліся ў дзесяць разоў.

Цяпер разбудоўваецца цэх маслабойні, будуецца кацельная, якая будзе пастаўляць 30 тон пары ў гадзіну. У першым паўгоддзі бягучага года будзе зададзены ў карыстанне сацыяльны будынак, у якім, між іншым, адкрыецца сталовая.

У малачарні цяпер працуе 475 чалавек. Сярэдні іх заробак — 24366 зл.

Вялікую ролю адыгрываюць тут партыйная і прафсаюзная арганізацыі, якія задаюць працоўны тон усяму прадпрыемству.

Каго пахваліць, вылучыць, чые назваць імя — гэта няпростая справа і таму старшыня бельскай малачарні Вера Паўлючук заўважае, што кожны чалавек у іх прадпрыемстве належна выконвае свае абавязкі, што ўвесь працоўны калектыў ахвярны.

Варта падкрэсліць той факт, што жанчын-старшынь у спулдзельчых малачарнях наогул вельмі мала, а на Беласточчыне яна толькі адна. Старшынёй яна працуе з 1982 года. Варта дадаць яшчэ і тое, што яна — абсальвентка Бельскага беларускага ліцэя.

**Міхась Хмялеўскі**

# НАМ АДКАЗВАЮЦЬ

W nawiązaniu do artykułu zamieszczonego w Waszym tygodniku z dnia 25.01.1987 r. pt. „Durnia kleić", oraz w oparciu o dodatkowe informacje uzyskane za Waszym pośrednictwem, uprzejmie wyjaśniamy:

Z przesłanej nalepki odczytaliśmy cenę przedmiotowego kleju, która wynosiła 17 złotych. Ta właśnie cena obowiązywała do 31.05.1986 r., od 1.06. 1986 r. cena kleju wzrosła do 19 zł. Na podstawie tego stwierdzamy, że zakupiony przez Ob. Bajkę klej, najpóźniej mógł być produkowany 31.05.1986 r., chociaż możliwa jest również wcześniejsza data jego produkcji. Okres trwałości kleju od daty produkcji wynosi 6 (sześć) m-ćy. Zakładając, że Ob. Bajko rzeczywiście zakupił klej między 10 a 16 grudnia 1986 r., był on już w tym momencie po upływie okresu trwałości i powinien być wycofany ze sprzedaży. Po sześciu miesiącach od upływu daty produkcji klej ma prawo stracić swoje właściwości. W tym konkretnym przypadku trudno jest mówić o naszej winie, tym bardziej, że na przysłanej nalepce nieczytelna jest data produkcji.

Prezes Zarządu
inż. Ireneusz Zborelo
Wytwórczo-Usługowa
Spółdzielnia Pracy w Sokółce

**Ад рэд.:** І так, зноў памоўка на воўка, як кажуць у нас. Вытворца сапраўды „дурня клеіць", звальваючы віну на гандаль.

лічбай, блізкай да 20 прац. Значыць, прырост капіталаўкладанняў на ўзроўні 1,7 прац. фактычна з'яўляецца прызнаннем да адыходу назад, бо ён далёка не рэкампенсуе пастаяннай інфляцыі.

І яшчэ адно, што мяне ўразіла ў гэтым плане: большая колькасць фінансавых сродкаў (аж 76 прац.) спатрэбіцца на далейшую рэалізацыю розных пабудоў, якія былі распачаты ў папярэдніх гадах. Толькі 19 прац. ад гэтай сумы (значыць — 1 мільярд 700 мільёнаў злотых) адводзіцца на сапраўды новыя капіталаўкладанні, якія пачнуцца ў гэтым годзе і будуць ажыццяўляцца на працягу ўсяе пяцігодкі.

Найбольш грошай, бо аж 37 прац. ад агульнай сумы, адводзіцца на патрэбы вясковай гаспадаркі. Памятаю, што ў час аднаго пленарнага пасяджэння Ваяводскага камітэта партыі, прысвечанага паскарэнню развіцця вясковай гаспадаркі Беластоцкага ваяводства, было пастаноўлена, што для яе патрэб у бюджэце ваяводства неабходна выдзяляць кожны год не менш, як 40 прац. ад агульнай сумы фінансавых сродкаў.

У час прэсавай канферэнцыі, склíканай пасля гэтай сесіі ВРН, я прыгадаў ваяводу аб гэтым патрабаванні партыйнага форума. Адказ быў такі, якога можна было і спадзявацца: ці скрэсліць з плана некалькі соцень гектараў сенажаці, прызначанай да меліяравання, ці адпаведную колькасць памяшканняў, школ, бальніц, або яшчэ чаго? Спецыялісты па планаванню рашылі тады нешта адкроіць з вялізнай сумы, прызначанай на вясковую гаспадарку, каб крыху больш засталося на іншыя патрэбы жыхароў ваяводства. Прадбачваецца, для прыкладу, што ў 1987 годзе будзе пабудавана 3100 кватэр. Прыдалося б, вядома, у дзесяць разоў больш, але аб гэтым можам толькі памарыць.

А ў рамках вясковай гаспадаркі найбольш грошай адводзіцца на меліярацыю і абеспячэнне вадою. У гэтым таксама знаходзіцца пабудова аграмаднага вадасховішча між Бандарамі і Семяноўкай, якая мае ўжо за сабою дзесяцігадовую гісторыю.

Няма ў мяне аніякіх магчымасцей, каб пералічыць усё тое, што, хто, за колькі будзе будаваць ды да чаго імкнуцца. Толькі прыкладна магу праінфармаваць, што ўрэшце рэшт будуецца ачышчальнік сцёкаў для Гайнаўкі. Яго кошт палічылі на 670 мільёнаў злотых. Думаю, каб нехта палічыў затраты ад атручвання натуральнага асяроддзя, асабліва ў раёне Белавежскай пушчы, дык яны напэўна перавысілі б гэтую суму. Заканчэнне пабудовы гайнаўскага ачышчальніка прадбачваецца ў 1992 годзе. Даўгавата. За гэты час яшчэ многа атручанай вады паплыве ў рэчцы Лясной.

Можна яшчэ ўспомніць аб школе ў Орлі, на якую ў 1987 годзе Кураторыя адводзіць 60 мільёнаў злотых, і аб школе ў Нарве (80 мільёнаў зл. у 1987 г.), і пра 7 вясковых водаправодаў і аб многіх іншых пабудовах і праектах. Адным словам гэты план на 1987 год дае нам падставу не падаць духам і з памяркоўным аптымізмам глядзець у будучыню.

**Віктар Рудчык**

(Працяг са стар. 4)




ня злеўні на дзялянцы 351.

Дзялянка 351 — гэта зямля V класа і ёсць згода гміны, што можна яе прызначыць пад злеўню. Другая ж дзялянка знаходзіцца каля супрацьпажарнага басейна, тут IV клас зямлі і нялёгка будзе атрымаць згоду ўладаў, каб прызначыць гэты пляц пад будову. У пісьме людзі пішуць, што каб выстарацца новую згоду, трэба будзе год, два гады часу, калі ўлады ўвогуле згоду такую дадуць. Іншы аргумент аб непрыдатнасці месца каля басейна — гэта высокі кошт пабудовы, на 1 мільён злотых больш, чым на дзялянцы 351. Чаму? Бо месца каля басейна нізкае, балоцістае (гэта луг), частка яго заліваецца вадой. Пры тым сама дзялянка вузкая, тут трансфарматар і энергетычная лінія. Хочучы будаваць тут злеўню, трэба было б падняць пляц на 3 метры вышэй, а ўсё гэта, вядома, звязана з дадатковымі грашыма.

Адносна пабудовы злеўні ў Грабаўцы на дзялянцы 351 справа выглядае так: прэзас малачарскай спулдзельні ў Гайнаўцы ўжо паабяцаў, што пабудова можа распачацца ў 1987 г. і закончылася б яна ў 1988 г. Прэзас мае на гэта згоду рады спулдзельні і сродкі.

„Вёска падзелена, — пішуць людзі, — больш-менш папалове. Адны хочуць у адным месцы, другія — у другім. Тыя, хто за месца 351, — маладыя гаспадары; тыя, хто каля басейна, — у большасці блізкія пенсіённага ўзросту. Сярод тых апошніх ёсць і такія, што кажуць: калі не ў тым месцы, дзе яны хочуць, то няхай увогуле злеўні не будзе."

Нам здаецца, што трэба адкінуць усе спрэчкі. Рацыянальныя аргументы і рацыянальны падыход да справы — вось што мае сэнс.

Грабавец — вёска прыгожая і багатая. Злеўня ёй патрэбная. І калі ёсць магчымасць пабудаваць яе хутка і ў месцы ўжо для гэтага вызначаным, і акцэптаваным гмінай, было б, нам здаецца, неразумна не скарыстаць з нагоды, а займацца дыскусіяй, якая напэўна (як часта бывае) вядзе да страты шанцу. **(вл)**

(Працяг са стар. 3)

### РАЗВАЖАННІ ПЕРАД З'ЕЗДАМ

ючы і тое-сёе ведаючы пра сябе чалавек, можа, мабыць, крытычна ацаніць самога сябе і свае паводзіны: ці сапраўды яны годныя беларускага студэнта, ці не ганьбяць яго добрага імя.

На гэтым, бадай, даводзіцца спыніць мае разважанні. Думаю, добра было б пачуць выказванні іншых сяброў. З'езд нашага студэнцтва будзе найлепшай нагодай для таго. Таму і Ваша, студэнты-беларусы, актыўная прысутнасць на ім будзе прыняццем нейкай пазіцыі: або „Хай гэта робяць другія (мая хата з краю...)", або „Давайце разам, наперад"!

**Юрка Ляшчынскі**
(Варшава)

# САМАБОЙСТВА

Мы жылі ў славутым старым доме студэнта „Падкова“ пры вуліцы Свярковай, у нашым сапраўдным доме.

Пасябравала я з Ірынкай, эксцэнтрычнай і вельмі эмацыянальнай першакурсніцай. „Шалёная дзяўчына з гітарай“ палюбіла вельмі сімпатычнага, працавітага, добрага студэнта Казіка і пасябравала з ім. Доўгія гадзіны праводзілі яны на мудрых размовах аб жыцці, навуцы ці рэлігіі. Мяне вельмі гэта цешыла, таму што Казя я ведала здаўна і вельмі яго шанавала.

Аднойчы вечарам, перад зімовымі канікуламі, калі амаль цэлы інтэрнат пуставаў, Іра прыбегла да мяне, у пакой № 120.

— Я прыняла таблеткі. Я хачу памерці. Няма чаго мне жыць на свеце, калі Казік мяне не хоча, — прадэкламавала і высыпала мне на калені некалькі парожніх плітак, хісткім крокам падыйшла да ложка і села на падлогу. Была цяжкая, быццам мяшок.

— Ірачка, адчыні вочы! — завярашчала я.

Я раскрыла цяжкія цёмныя векі Ірыны. Чорныя бліскучыя вочы бясстрасна ўтаропіліся ў мяне, зубы прыкусілі губы.

— Што ты ўзяла, хутка скажы?..

— Не ведаю.

Я перабірала пліткі, але нельга было разабраць, якія лякарствы раней у іх былі. „Можа гэта ампіцылін? А тут вось маленькія дзірачкі, можа нешта на сон? Божа мой, што рабіць цяпер? У інтэрнаце толькі некалькі чалавек, і то кожны зачыніўся наглуха... Хутчэй, па дапамогу! А як жа яе тут пакіну... Збегчы ўніз, да парт'е... Там тэлефон... Божа, яе вочы ўцякаюць пад лоб! Як жа я яе тут пакіну...“

— Міра... Я паміраю. Не адыходзь! Не кліч дапамогі! Не хачу ў бальніцу! Пакліч Казіка, скажы, што гэта праз яго! — голас Іры заціх.

„Паміраe!“ Я пабегла па калідоры. „Цяпер направа, тут жывуць Юрка з Казікам. Юрка, ёсць Юрка!“

Юрка выходзіў якраз з ванны, спавіты ў купальны ручнік. Я кінулася да яго, слёзы пырснулі ў мяне з вачэй, паліліся, як з вядра, па руках, па сцяне, да якой я прылягла. Нічога не магла сказаць, вырываўся ў мяне толькі нейкі гік.

— Казік... Казіка... Іра... — захліствалася я. — Іра, у мяне... памірае!

— Казік цяпер заняты, — спакойна выціраў мае вочы Юрка. — Каб праз нас усе паненкі паміралі, то... Іра?! Божа мой! Здурэла! Праз Казіка?! Бягу!

Я падбегла да ўмывальніка, прагна піла халодную ваду. З люстэрка глядзеў на мяне мокры перапалоханы твар. „Вось так выглядаюць валасы дыбам, валасы дыбам, валасы дыбам“, — пульсавала пад маім чэрапам. Я так і села на мокрыя пліткі падлогі.

Нехта пабег па калідоры. „Хутчэй да яе, хутчэй! А пасля

(Працяг на стар. 8)

(Працяг са стар. 1)

беларускай мовай. Ужо ў сярэдняй школе вышукоўваў у бібліятэках усё тое, што было звязана з Беларуссю. У пазнейшым часе зацікаўленні гэтыя пачалі мець ужо не аматарскі, а навуковы характар. Удзел у вашай канферэнцыі — гэта чарговы этап маіх зацікаўленняў.

**Пытанне:** Што Вы можаце сказаць аб зацікаўленні беларускай мовай і культурай наогул у ЗША?

**Адказ:** Хачу сказаць, што гэтымі праблемамі займаюцца карэнныя амерыканцы і беларусы, якія знаходзяцца ў ЗША ўсяго 40-45 гадоў. У нашай краіне выходзіць некалькі беларускіх часопісаў свецкага і рэлігійнага характару. Выдаецца таксама навуковы беларусамоўны часопіс „Запісы“. У гэтым часопісе былі апублікаваны шматлікія даследаванні, звязаныя з гісторыяй Беларусі, з беларускім фальклорам, мовай і культурай. Не мала ў ЗША выйшла беларускіх кніг паэзіі і прозы. Варта падкрэсліць, што цікавасць да беларускага культурнага і навуковага руху з кожным годам узрастае. Відаць гэта на прыкладзе колькасці ўдзельнікаў у беларускіх культурных мерапрыемствах.

**Пытанне:** Вы наведалі Беласточчыну. Што з гэтай паездкі захавалася ў Вашым сэрцы?

**Адказ:** Шкадую, што быў вельмі мала. Не змог наведаць ні Галоўнага праўлення БГКТ, ні „Нівы“. Аднак сутыкнуўся з жывой беларускай субстанцыяй. Праехаў па многіх беларускіх вёсках, быў у Белавежы, наведаў Беларускі ліцэй у Гайнаўцы. Прыгожая зямля Беласточчына і прыгожыя жывуць на ёй людзі. Гэта паездка была для мяне формай канфрантацыі з рэчаіснасцю, якую я ведаў з публікацый у „Ніве“. Хачу адзначыць, што я з'яўляюся многагадовым чытачом „Нівы“ і што выстаўляю ёй як адгалоску беларускага нацыянальнага жыцця ў Польшчы вельмі высокую ацэнку. Прыемна мне было наве-

## РАЗНАРОДНАСЦЬ -ГЭТА ХАРАСТВО

даць масіў Белавежы, ад якой беларускія пісьменнікі ўзялі назву для сваёй літаратурнай арганізацыі. Незабыўнае ўражанне зрабіла на мяне сустрэча з вучнямі Беларускага ліцэя ў Гайнаўцы і размова з дырэктарам ліцэя Алесем Іванюком, настаўнікам беларускай мовы Васілём Сакоўскім, якія расказалі мне аб спецыфіцы школы і аб асаблівасцях выхаваўча-дыдактычнай сістэмы. Зразумела, што назаўсёды астанецца ў памяці і ў сэрцы Белавежскі музей і Пётр Байко, які грунтоўна расказаў нам аб экспанатах, і перш за ўсё сама святыня пушчы, якую дагэтуль я ведаў толькі з літаратуры і ілюстрацый.

**Пытанне:** Што Вы хацелі б перадаць беларусам у Польшчы і чытачам „Нівы“?

**Адказ:** Перш за ўсё хацеў бы з вялікім прызнаннем выказацца аб Беларускім таварыстве, аб „Ніве“, аб беларускіх настаўніках, якія з такой ахвярнасцю і паслядоўнасцю працуюць у галіне захавання і развіцця беларускай мовы, культуры, нацыянальных традыцый. Свет, у якім выступала б дамінацыя адной мовы і адной культуры, быў бы нецікавы і несправядлівы. Разнароднасць — гэта хараство. Думаю, што тое, што робіць Кафедра беларускай філалогіі, Беларускае таварыства і „Ніва“, якраз служыць хараству і справядлівасці. Асаблівае ўражанне выклікае трыццацігадовая дзейнасць адзінай у свеце па-за межамі БССР Кафедры беларускай філалогіі, якая беларускай нацыянальнай моладзі стварае магчымасць развіваць свае здольнасці і веды.

Усё гэта мае велізарнае значэнне не толькі для беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы, але і ўвогуле для беларускай нацыі, скажу болей, для ўсяго чалавецтва, у якім беларускі народ, яго мова і культура адыгрываюць усё большую ролю.

Веру, што працуеце не толькі для сённяшняга, але і для заўтрашняга дня беларускай нацыі.

Размаўлялі: **А. Баршчэўскі, А. Барташэвіч**

## ТАК БЫВАЕ...

### БЕЗ РАЗВОДУ І БЕЗ ЖОНКІ

Аднаго разу вышаў я на Відаўскую вуліцу, ажно чую, як гавораць на лаўцы паміж сабою старыя-пенсіянеры.

— Коля наш усё жыццё цяжка рабіў на гаспадарцы і меў ён дзве дачкі. Адной пабудаваў дом у Беластоку, бо яна туды пайшла замуж, а потым яшчэ і грашыма ёй дапамагаў, машыну купіць яна хацела разам з чалавекам сваім. А калі і другая збурылася замуж ісці, то трэба было і ёй дом паставіць, у Бельску ўжо, каля самюткага рынку. І так ён цэлую гаспадарку памалу папрадаваў, каб дочкам тым, дзецям сваім, лепей жылося-былося, і нават з рэнты тае дадаваў ім трохі. Калі наш Коля застаўся без гаспадаркі зусім, толькі з жонкаю сваёю, тады адна дачка, тая беластоцкая, забрала да сябе маці, а бельская — яго самога, Колю. І так Коля наш застаўся на старыя леты без жонкі як быццам... Ці ж гэта не страшна: жонка яшчэ жыве, але ўжо як быццам і няма. Хоць ты вазьмі ды развод пачынай яму праводзіць. Разляцеліся, як тыя птушкі на зіму. Коля аддаваў сваю рэнту бельскай дачцы, а сам без граша нудзіўся цэлымі днямі. Хоча ён піва выпіць і не мае за што. Часам знаёмы паставіць яму піва, паставіць раз і другі, а пасля і запытае: „А ты, Коля, што: без грошай жывеш? А дзе гэта твая рэнта за гаспадарку падзелася?“

І наш Коля думаў-думаў ды ўзяў і вярнуўся ў сваю вясковую хату. Клікаў да сябе і жонку, але яна так распанела ў тым Беластоку, што і слухаць не хоча Колі, вялікай паняй зрабілася ў пакоях дачкі, пэўна есці ёй там гатуе, як кухарка якая. Так і жыве адзін наш Коля — без гаспадаркі, без дзяцей і без жонкі. Во да чаго дажыўся. Але яму і лепей аднаму. Сам сабе ён цяпер пан і гаспадар на панадворку.

**Андрэй Гаўрылюк**

## БАЦЬКА МІНАЙ

*цін Заслонаў, які арганізаваў дыверсіі на аршанскім вузле (...). М. П. Шмыроў, Ф. Паўлоўскі, стогадовы партызан Дзед Талаш. А 14-гадовы Марат Казей, сувязны, разведчык, баец, што загінуў у маі 1944 года. Яму зараз стаіць у Мінску помнік. А Обальскія юнакі-падпольшчыкі! Яны ўзарвалі на станцыі Обаль некалькі эшалонаў з танкамі і авіябомбамі. Узарвалі ільнозавод, электрастанцыю, некалькі складаў і мастоў, цагельню, тры матавозы, элеватар, дзесяць аўтамашын з салдатамі, зрабілі дыверсію ў мясцовай афіцэрскай сталовай (загінула больш за сто чалавек). Правакатар выдаў іх, але схоплены былі не ўсе, частка пайшла ў партызаны...“*

Названы Ул. Караткевічам **М. П. Шмыроў,** гэта і ёсць — **Бацька Мінай.** Пра яго гаварыў Уладзімір Пятровіч.

— Заўтра, калі захочаш, мы наведаем музей Бацькі Мінaя, — заахвочваў ён.

Мая цікавасць завастрылася. Дамовіліся мы на вул. Чэхава, дзе пад нумарам 4, у невялічкім асабнячку, памяшчаецца гэты музей.

Я пачаў вывучаць жыццё і подзвігі героя, якога ў народзе назвалі Бацькам Мінаем.

Мінай — гэта яго сапраўднае імя. Нарадзіўся ён 23 снежня 1891 года. Сапраўды, у гэты дзень у царкоўным календары адзначаецца свята нейкага Міная. Чаму аднак „Бацька“? Праўда, у партызанскіх атрадах многа было розных „Бацькаў“ або „Бацяў“. Мінай у 1941 годзе быў яшчэ не такім ужо старым чалавекам, не насіў дзедаўскай барады і ні ў чым не напамінаў дабрадушнага „бацю“. З фатаграфіі глядзеў на мяне падстрыжаны „пад нуль“ чалавек, з вусікам толькі пад носам, рашучы і адважны, які ведае, чаго хоча. Меў ён за сабою тады 50 гадоў жыцця і сапраўды быў бацькам, сапраўдным бацькам шматлікай сям'і, якую гітлераўцы пазверску замучылі...

Пачнем, аднак, расказ па чарзе. Мінай Шмыроў быў сынам беларускіх сялян, якія жылі ў вёсцы Пунішча на Віцебшчыне. Калі ўспыхнула I сусветная вайна, ён знаходзіўся ў салдатах. Быў добрым, адважным салдатам, поўным георгіеўскім кавалерам, гэта значыць, такім, якому прысвоена ўсе тры Крыжы святога Георгія. Лічыліся яны найвышэйшай узнагародай у царскай арміі.

У першыя гады пасля рэвалюцыі ён апынуўся ў родных мясцінах. У Віцебску і наваколлі бушавалі тады розныя банды і авантурысты. І зноў Шмыроў уступіў на ваенную сцежку. Па-свойму, партызанскім метадам, наладзіў атрад да барацьбы з бандытызмам і контррэвалюцыяй і за кароткі час завёў задавальняючы парадак у Віцебску. Між іншым і за гэта рэвалюцыйная ўлада ўзнагародзіла яго сваім вышэйшым ордэнам Чырвонага Сцяга.

# АЛКАГАЛІЗМ — НАРКАМАНІЯ, ХВАРОБА ЦІ РАСПУСТА?



Загаловак мой гэты трохі дзіўны, але я як старэйшы чалавек, які зажыў і дабра і зла, маю сякі-такі свой погляд на п'янства. На алкагалізм я гляджу як на нібы-хваробу ў людзей бязвольных, слабых характарам. Чалавек можа прызвычаіцца да чаркі, асабліва, калі ніхто гэтаму чалавеку не перашкаджае выпіваць. Я якраз і раблю націск на перашкоды ў выпіванні. Бо калі б знайшоўся хтосьці такі, хто ад пачатку паўстрымаў бы піццё, то напэўна адзін і другі не піў бы столькі, колькі ўжо п'е.

Пра няшчасці і страты ад п'янства няма чаго занадта гаварыць, гэта разумеюць нават і самі п'яніцы. П'янства — гэта не хвароба, тым болей не цяжкая хвароба. Цяжкая хвароба тады, калі чалавек хоча быць здаровым, але не можа. А п'яніца можа быць здаровым, даволі яму толькі пастанавіць не піць. Я ведаю аднаго п'яніцу, які даў прысягу ў храме, што не будзе больш піць гарэлкі, і не п'е ўжо каторы год, і я веру, што не будзе. А ён жа так піў, што ўжо і забыўся быў, як свет выглядае на цвярозае вока.

У акупацыю немцы не давалі гнаць самагонку, але людзі мелі свае способы і гналі яе, і пілі, многа пілі. Памятаю такі выпадак: п'яны валокся вуліцаю, ад плота да плота. Раптам убачыў ён перад сабою жандара, убачыў, хоць вочы яго слаба свяцілі. Свайго чалавека ён можа і не ўгледзеў бы, але жандара ўбачыў. Ён ведаў, чым магла закончыцца для яго гэтая сустрэча з жандарам. І ён, гэты п'яны, раптам, бы ў цуд які, пачаў так роўненька ісці, што ніхто і не падумаў бы, каб ён дзе выпіў. З гэтага выпадку ёсць навука: бацькі вельмі вінаваты ў тым, што патураюць дзецям у выпіванках. А не трэба патураць, і не трэба глядзець на тое, што дзеці ўжо дарослыя. Трэба ім гаварыць, каб не пілі яны залішне, нават часам і насварыцца.

Хтосьці можа спытаць: а няўжо ж у нас не змагаюцца з п'янствам? Праўда, многа гаворыцца пра п'янства, яго шкоднасць і бяду. І ўсялякія камісіі ў гэтым духу ёсць, і паважаныя людзі, вучоныя або дзеячы, выказваюцца ў гэтай справе. Павышаюцца цэны гарэлкі, уводзяцца строгія гадзіны яе продажу. Прыязджаюць усялякія агітатары цвярозасці, ім плацяць за гэта казённыя грошы. Але я хачу сказаць, што павысіць цану алкаголю — гэта так, як бы шпурнуць маленечкі каменьчык у быстрыню ручая: булькне і вадою заплыве, мулам занясе. Падобнае безвынікоўе і з устаноўленымі гадзінамі продажу. З кожным годам усё больш і больш бутэлек гарэлкі людцы нашы выпіваюць.

Для п'яніцы, нягледзячы на цану гарэлкі, самая важная гэта менавіта першая чарка. Першая! А дарагоўля даводзіць да таго, што калі няма за што купіць хоць на тую першую чарку, пачынае тады п'яніца піць штоколечы ўзамен — дэнатуру, адэкалон, ды ўсялякую іншую поскудзь, абы алкаголем пахла. Дарагоўля зусім дабівае і без таго бедныя сем'і п'яніцаў. І тое абмежаванне часу продажу таксама без сэнсу — п'яніцы ўжо ходзяць п'янымі ад самюткага рання. Што яны — запасы робяць? Дзе вы бачылі такога п'яніцу, які здольны пакінуць гарэлку на заўтрашні дзень? У патаемках яны гэтак напіваюцца, у патаемках! А патаемак гэтых поўна, хоць і міліцыя іх выкрывае, а калегіі і суды востра караюць.

Нехта назваў нашых п'яніц „святымі каровамі" (параўнанне, вядома, з Індыі). Але з кароваю так, што, калі ты яе не зачэпіш, то і яна цябе не зачэпіць, нават бокам абыйдзе. А нашага п'яніцу не толькі нельга зачапіць, але нават і глянуць з дакорам на яго нельга, яму твой позірк не спадабаецца і ён табе такога гвалту за гэта наробіць, што ніхто цябе не абароніць, не заступіцца. А калі, не дапусці Бог, міліцыю паклічаш на п'яніцу, дык ведай, што нажыў ты ў ім ворага сабе да самае смерці. Народ наш дае вялікую паблажку п'яніцам, і ў гэтым найбольшая бяда.

А яшчэ пра наркаманію скажу. Наркаманія гэта хвароба, на якую бедныя зусім не хварэюць, а толькі заможныя. Гэта агульнавядомая цяпер праўда. І пашыраецца яна там, дзе ніхто не перашкаджае яе пашырэнню. Забарона сеяць мак і каноплі без дазволу — адзін смех чалавеку са здароваю галавою. Бо гэткая забарона — капітуляцыя перад злачынствам. Можа і збожжа забараніць сеяць, бо ж са збожжа самагонку гоняць, не толькі з цукру... Жарт тут, вядома, цяжкі..

Вось якая розніца паміж хворым і алкаголікам або наркаманам: хворы робіць усё, што лекар яму накажа, каб толькі выздаравець, а п'яніца або наркаман — акурат не, усё ў іх наадварот: ратуй яго, а ён не хоча, каб ратавалі. Ну і што з такім рабіць? Нашто ім будаваць асобныя бальніцы, калі мала тых бальніц для людзей, што страцілі здароўе ад цяжкай працы.

У палове верасня дыктар тэлевізіі пацешыў нас, што зноў будуць павышаны цэны алкаголю дзеля выхавання грамадства ў духу цвярозасці. Але ж не першы раз так робіцца, а людзі п'юць не менш, але ўсё больш. Значыць, не туды дарога, кепскі гэта метад.

І пытанне такое: чаму па прычыне алкаголікаў усё даражэй павінны плаціць за алкаголь іншыя людзі, якія купляюць гарэлку не для п'янства. Чаму такая кара ўсяму народу? І трэба ж памятаць, што большая цана на гарэлку — гэта аўтаматычна большая цана на ўсялякія паслугі — у шаўца, краўца ці каваля, у трактарыста, а ўсё гэта дэстабілізуе настроі і гаспадарку.

Рэцэпт, як змагацца з п'янствам і наркаманіяй, я тут не бяруся выпісваць, хоць сваё ведаю.

(Працяг на стар. 8)

Пасля Мінай Шмыроў усяцэла заняўся пабудовай новага, савецкага ладу на Віцебшчыне. Быў загадчыкам валаснога зямельнага аддзела, старшынёю калгаса і дырэктарам двух заводаў. Гітлераўская агрэсія на Савецкі Саюз застала яго на пасадзе дырэктара кардоннай фабрыкі ў пасёлку Пудаць (тадышні Суражскі раён Віцебскай вобласці). Па даручэнню партыі Мінай Шмыроў з першых дзён акупацыі (ад 11 ліпеня 1941 года) разам з сакратаром фабрычнай партызанскай арганізацыі Рышардам Уладзіслававічам Шкрэдай прыступілі да арганізавання партызанскага атрада сярод рабочых сваёй фабрыкі. І ўжо 25 ліпеня 1941 года гэты атрад правёў сваю пераможную першую баявую аперацыю, у выніку якой было забітых 30 варожых кавалерыстаў. Фашысты рашылі пакупацца ў рэчцы Тураўка і тут напалі на іх партызаны Міная. Некалькімі днямі пазней яны перапынілі калону бензінавозаў і знішчылі яе. Да вясны 1942 г. партызаны Мінская Шмырова мелі на сваім баявым рахунку 1500 варожых салдат і гітлераўскіх прыслужнікаў, 50 аўтамашын, 50 мастоў і аднаго генерала. Атрад разросся і пераўтварыўся ў Першую беларускую партызанскую брыгаду, якая поўнасцю кантралявала тэрыторыю 15-ці сельскіх саветаў, дзе нармальна дзейнічалі ўсе органы Савецкай улады, працавалі школы і клубы.

У народзе загаварылі пра Бацьку Міная. Акупанты арыштавалі яго сям'ю, у тым ліку і малалетніх дзяцей. Гэты факт яны шырока раструбілі па ваколлі. Абяцалі даравяць ім жыццё, калі Бацька Мінай добраахвотна сам аддасць зброю ў рукі акупацыйнай уладзе... Можна сабе ўявіць унутраны боль і хістанні гэтага бацькі. У віцебскім музеі захаваўся ліст яго дачкі, тайком перададзены яму з гітлераўскага астрога. Дачка папярэджвае бацьку, каб ён не слухаў абяцанак немцаў...

Пакутніцкую смерць сваіх дзяцей Бацька Мінай страшэнна перажыў. Магчыма, таму з Масквы прыслалі загад, каб яго накіраваць да працы ў Цэнтральным штабе партызанскага руху. У Маскве дачакаўся ён ужо вызвалення родных мясцін, жыў і працаваў у Віцебску. Разгарнуў шырокую грамадскую дзейнасць, быў дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР. Памёр 3 верасня 1964 года. Пахавалі яго на Успенскай горцы ў цэнтры Віцебска, побач з генераламі і афіцэрамі Савецкай Арміі, там, дзе ўзвышаецца звыш 20-метровы помнік героям перамогі над французамі ў 1812 годзе.

Пабываў я ля гэтай магілы, прайшоўся дубовай алеяй, пасаджанай баявымі сябрамі Бацькі Мінская. У галаве была толькі адна думка: народ, які мае такіх герояў, не можа загінуць. Якуб Колас яшчэ ў 1942 годзе пісаў:

Паклон табе шчыры і нізкі,
Наш Бацька Мінай!
Ты стаўся нам родны
і блізкі:
Ты — гэта наш край...

**Віктар Рудчык**

## выказванні

**Акадэмік
Д. С. ЛІХАЧОЎ**

**Вечнае супрацьстаянне**

...Новое противостоит старому, хотя, может быть, не всякое новое лучше старого. Как свет противостоит мраку, так разум и мудрость противостоят невежеству и безрассудству.

**Паўпраўда**

...Полуправда есть худший вид лжи: в полуправде ложь подделывается под правду, прикрывается щитом частичной правды.

**Гонар, прыстойнасць, сумленне**

...Честь, порядочность, совесть — это качества, которыми дорожить нужно так же, как мы дорожим своим здоровьем, ибо без этих качеств и человек — не человек.

...Совесть — понятие очень сложное, и, конечно, можно требовать от каждого человека совестливости. Но требовать чести можно, потому что бесчестный поступок на виду, он явно замечается общественным мнением.

## БІБЛІЯГРАФІЧНЫ КУТОЧАК

Галіна В. Таўлай, Белорусское купалье, Обряд, песня, Мінск 1986, стар. 176, цана 1 р. 40 к. (у ПНР 112 зл.).

Станіслаў Цярохін, Охота в Белоруссии, Мінск 1986, стар. 160, цана 70 к. (у ПНР 56 зл.).

Вячаслаў Алешка, Спатканне з лесам, Мінск 1986, стар. 208, цана 9 р. 80 к. (у ПНР 784 зл.). (Тэкст альбома на беларускай, рускай, англійскай, французскай, нямецкай і іспанскай мовах).

Животный мир Белорусского Полесья. Охрана и рациональное использование (Тэзісы дакладаў абласной навукова-практычнай канферэнцыі „Фауна Палесся"). Гомель 1982, стар. 174, цана 74 к.

Ігар Лапацін, жуки-листоеды фауны Белоруссии и Прибалтики. Вызначальнік, Мінск 1986, стар. 132, цана 55 к. (у ПНР 44 зл.).

Іван Юркевіч, Эма Ярашэвіч, Сезонное развитие лесной растительности Белоруссии, Мінск 1986, стар. 192, цана 2 р. 20 к. (у ПНР 176 зл.).

Віктар Парфенаў, Іван Мазан, Ивы (Salix L.) Белоруссии, Таксаномія, фітацэналогія, рэсурсы, Мінск 1986, стар. 168, цана 1 р. 60 к. (у ПНР 128 зл.).

Jerzy Leszek Olszewski, Rola ekosystemów leśnych w modyfikacji klimatu lokalnego Puszczy Białowieskiej, Zakład Badania Ssaków PAN, Ossolineum, Wrocław 1986, str. 222, 1 wklejka, nakład 700 egz., cena 210 zł.

Rocznik statystyczny województwa białostockiego 1986, Wojewódzki Urząd Statystyczny w Białymstoku. Białystok 1986, str. 350, nakład 750 egz., cena 230 zł.

**Пётр Байко**

## ГАРАДОК ЗАПРАШАЕ НА СЕРАДУ

22 лютага г.г. адбыўся чарговы сход гуртка Беларускага таварыства ў Гарадку. На сходзе прысутнічала каля 25 чалавек. Былі прыняты новыя члены і абмеркавана і зацверджана праграма далейшай дзейнасці. Пачынаючы з 4 сакавіка г.г. у кожную сераду а 18-й гадзіне ў Доме культуры імя К. Каліноўскага ў Гарадку будуць адбывацца сустрэчы з літаратарамі, гісторыкамі, цікавымі людзьмі, у тым таксама даклады па гісторыі Гарадка і ваколіцы.

Усіх зацікаўленых сардэчна запрашаем прыняць удзел у нашых сустрэчах.

**Гурток БГКТ у Гарадку.**

ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

Мікола Чарняўскі

### ЗАЙКА-МУРЗАЙКА

Зайка-мурзайка
Вочы працёр.
Зайка-мурзайка
Выбег на двор.

Токам нібыта,
Працяў халадок:
Цёплыя лапкі,
Золкі ж пясок.

На верасах —
Ізумрудам раса.
Зайку ж расічка
Страшней,
Чым ліса!

Торкнуўся пыскай —
Узвіўся ажно:
Зайка-мурзайка
Не мыўся даўно.

Будзе матуля
Зноў спавядаць,
Бо прыгразілася
Есці не даць.

Кроку на градкі
Не смее ступіць,
Калі ён зарадкі
Не будзе рабіць.

Як жа пазбавіцца
Ад нуды?
Як жа пазбавіцца
Ад вады?

І — здагадаўся!
Вушы — слупком!
Кінуўся ў хатку
Шэрым клубком:
— Мамачка, мамачка,
У верасах
Бегае, бачыў,
Рыжуля ліса!

— Рыжая блізка?
Што ж, пасядзі.
З хаткі
Да градкі,
Сынок,
Не хадзі!..

Зайка-мурзайка
Сумны сядзіць:
„Як жа па моркаўку
Сёння схадзіць?..“

Раптам адважыўся:
І — да вады!
Маці спалохана:
— Сын, ты куды?

— Добра памыцца мне
Трэба, відаць:
Ліска сустрэне —
Не зможа пазнаць...





Удзельніцы раённага дэкламатарскага конкурсу ў Гайнаўцы: Гражына Галавачык, Святлана Касцючук і Бася Сахарчук з Кленікаў. Рыхтавала іх да конкурсу настаўніца Марыя Базылюк. Фота Я. Чэрнякевіч.

## БЕЛАРУСКІЯ ПТУШКІ

Васіль Вітка

### ЗЯЗЮЛЯ

Пэўна, вы вясною чулі,
Як на дрэве, на суку
Кліча на ўвесь лес зязюля:
— Ку-ку! Ку-ку!

Я ў зязюлі запытаю,
Можа быць, яна што знае,
Куды знік з дупла мой сшытак.
— Родненькая, адкажы ты.

Калі што табе вядома,
Ты адкрый мне тайну тую —
Я ўжо цэлы дзень як з дому,
Пад сабой зямлі не чую.

Я ўжо з голаду канаю,
Ледзьве ногі валаку, —
А зязюля мне: — Не знаю.
Ку-ку!

Крылламі залапацела
І ў асіннік паляцела.

Тут я ўспомніў: гэта ж птушка,
Што малых не любіць гушкаць,
Ні спяваць ім калыханкі,
І ні ў ладкі з імі пляскаць,
Ні вадзіць на пагулянкі,
Ні расказваць байкі-казкі.
Бо яе малыя дзеці
Раскіданы па ўсім свеце.
Іх чужыя кормяць маткі,
Даглядаюць і гадуюць,
А зязюля і палаткі
Ім на лета не будуе.

Так яна свой век вякуе —
Ні двара і ні кала,
Век сваё „ку-ку“ кукуе —
Рада, што дзяцей збыла.



Алесь Якімовіч

# ЧАРНАВОЧКА

(Заканчэнне)

Праз некалькі дзён, у форме нямецкага палкоўніка, я апынуўся ў канцылярыі каменданта гестапа. Камендант быў у чыне капітана і дрыжаў перада мною, як трусік. Ён нават не адважыўся праверыць мае дакументы, хоць яны былі ў поўнай спраўнасці. Наконт гэтага ў нас у атрадзе недахопаў не было. Як і належала быць, са мной знаходзіўся мой ад'ютант — лепшы ў атрадзе стралок — Саша, які таксама сёе-тое камекаў у нямецкай мове. І прыкацілі мы ў гарадок на самай лепшай трафейнай машыне.

Камендант аддаў мне рапарт, а я ў сваю чаргу задаў яму некалькі звычайных пытанняў: які настрой у салдат, ці няма дэзерціраў і гэтак далей. Нарэшце, я запытаўся аб арыштаваных — ці ёсць сярод іх асабліва небяспечныя для германскай арміі. Гестапавец паслужліва паказаў мне спіс арыштаваных і пачаў даваць свае тлумачэнні.

У спісе значылася і прозвішча Чарнавочкі. Дрыжыкі прабеглі па маім твары, калі я вычытаў гэтае прозвішча. Я задушыў у сабе хваляванне і, паказваючы на год нараджэння, запытаў сур'ёзна:

— А гэта блазнота па якой справе.

Гестапавец ветліва растлумачыў. Пры гэтым ён са злосцю дадаў, што ад арыштаванай за ўвесь час не вырвалі ніводнага слова. Слухаючы, я стараўся рабіць выгляд, што абураны нахабствам малой злачынцы і нават выказаў жаданне самому асабіста застрэліць гэтую... гэтую мілую Чарнавочку!

Камендант ахвотна дазволіў мне выканаць жаданне.

Прывялі дзяўчынку. Як яна змянілася! Збітая, скалечаная, уся ў сіняках, твар апух... Я ледзь стрымаў слёзы, убачыўшы яе. Беднае дзіця! А яна нават і не зірнула ў мой бок. Чорныя вачаняты былі апушчаны ўніз, і я не мог бачыць, што цяпер з імі сталася.

Я ўсхапіўся з крэсла, выняў з кабуры рэвальвер. Калі б гестапавец убачыў, як задрыжала мая рука, ён мог бы здагадацца, што нешта няладнае творыцца з панам палкоўнікам. Але ён у гэты час глядзеў на Чарнавочку, як каршун, чакаючы свежай крыві.

Чарнавочка раптам падняла свае вачаняты ды з такой агідай зірнула на мяне, што я ледзь не самлеў. Канешне, яна не пазна-

(Працяг на стар. 10)

# У НАШАЙ ГРАМАДЦЫ

**Падручнік беларускай мовы для пятага класа**
**Аўтары: Лідзія Гайдук — Мікалай Гайдук**

## ДЗЕ ЦЕНЬ СЯГАЕ
**(Легенда з-над ракі Нарвы)**

Некалі пры дарозе з Войшкаў у Заячкі стаяла старая жаралastая ліпа. Хоць яе сарцавіна даўно абярнулася ў парахно, вяршаліна ж цалкам змуршэла і абвалілася, але ніжнія голькі кожную вясну кучаравіліся густою лістотай. У гарачы поўдзень зморанаму чалавеку добра было прысесці на мяккай мураве ў цяньку і адтуль палюбавацца, як млеюць у спякоце яшчэ няскошаныя сенажаці над ракою Нарваю. Як у цянёк сыходзіліся двое старых, то бывала, не-не ды і згадаюць гэтае паданне.

Біліся тут, кажуць, якіясьці войскі. Змагаліся не на жыццё, а на смерць. І бачыць адзін военачальнік, што яго войска пад націскам ворага пахіснулася і пабегла назад. Схапіў ён тады абкаваны жалезам сундук з грашыма на заплату сваім салдатам і закапаў яго. Частка салдат таго военачальніка загінула ў гэтай бітве, і косці іх спачываюць побач з касцьмі іхніх непрыяцеляў на тых старых могілках, што каля ўрочышча Прыстань, пры самай рацэ Нарве. Другая ж частка разам са сваім военачальнікам трапіла ў палон і пайшла ў няволю.

Міналі гады, хадзілі і ездзілі сюдою людзі, расла сабе ўвысь ды ўшыр ліпа на ўзгорку. Ніхто так і не даведаўся б пра закапаны скарб. Але той жа военачальнік, дажыўшы да глыбокай старасці на чужыне, перад самай смерцю напісаў завяшчанне. Згадаў у ім пра сундук з золатам і дадаў, што закапаў яго ў тым месцы, куды сягае цень гэтай ліпы.

Прагныя дармовага багацця спадчыннікі мігам прымчаліся сюды і пачалі шукаць той скарб.

Была якраз раніца, і цень высокага разгалістага дрэва сягаў на паўвярсты ці болей. Кінуліся яны капаць. Валяць ямы ў рост чалавека, а там, апрача жоўценькага пясочку, нічога няма. Тым часам сонейка паднялося і цень стаў іншае месца паказваць. Давай яны там ямы капаць. Не паспелі і да пояса выкапаць, як цень далей перасунуўся. Капалі яны так раніцай, у поўдзень і ўвечары, а цень вёў іх усё ў новае месца. Капалі тыдзень, месяц, паўгода, капалі ўвесну, улетку і навосень. Спрытна ўсё навокал перарылі, і аніяк на скарб не натрапілі. І толькі тады, як са стомы не маглі ўжо ні ног перастаўляць, ні рук падымаць, зразумелі, што скарбу не знойдуць, бо ў завяшчанні не было сказана, у якую пару года і дня той военачальнік сундук з золатам закапаў. Так і зракліся тыя спадчыннікі сваіх пошукаў.

Цяпер цень сваім абсягам не спакушае нікога шукаць той скарб. Ад старасці ліпа зусім засохла і звалілася. Нават добра невядома, дзе яна і расла ды дзе яе цень сягаў.

Апрацаваў М. Гайдук

*1. Як былі пакараны прагавітыя спадчыннікі?*

*2. Папрасіце ў старэйшых людзей, каб расказалі вам легенды з мінулага вашай мясцовасці і яе ваколіц. Запішыце. Складзіце цэлым класам рукапісны зборнічак мясцовых легенд.*

**Станіслаў Шушкевіч**

## БЭКІ-МЭКІ

**Сеў казёл на верталёт,**
**Паляцеў у агарод...**
**Каза дома засталася,**
**І слязамі залілася,**
**Хаця б муж, як той камар,**
**Не заблытаўся між хмар.**
**Недалёкая дарога,**
**А трывогі гэтак многа.**
**Дзесяць вёсак, дзесяць сёл,**
**Праляцеў стары казёл.**
**Апусціў свой верталёт**
**Не ў капусту, а ў чарот,**
**Ледзь у багне не ўтануў,**
**Цераз дзесяць вёсак, сёл**
**Барадой сівой матнуў.**
**Зноў ляціць стары казёл**
**На радзіму, у свой хлеў.**
**Ад старання аж спацеў.**
**Прыляцеў, казу абняў.**
**Задаволена радня,**
**Многа радасці было,**
**Весялілася сяло.**
**Будзе ў памяці навекі,**
**Як скакалі бэкі-мэкі.**

## Вясёлы куточак

* * *

— Люба, чаму ты не паліла кветкі?

— Хачу паглядзець, як адчуваюць сябе расліны, якія растуць без вады ў пустыні Сахара.

* * *

— Што ты ведаеш пра Рабінзона Круза?

— Гэта быў чалавек, які адзін насяляў цэлы востраў.

* * *

Мама гатуе абед. Каля яе круціцца трохгадовы Арцёмка.

— Арцём, ідзі ў пакой, на кухні вельмі душна.

— Не, не пайду. Тут смачней дыхаць.

* * *

Каця пытаецца ў свайго брата:

— Ведаеш, якая розніца паміж снегам і табою?

— Ведаю, — кажа брат. — Снег можа рана паляжаць, а я ўставаць мушу.

## ГУЛЯЙЦЕ НА ДВАРЫ

**Круціліся жорны,**
**З'елі хлеб мы чорны:**
**Крысін і Марысін,**
**Грунін і Анісін,**
**З'елі і Пятроў хлябок.**
**Намялі яшчэ, дзядок.**

* * *

**Каціласл торба**
**З высокага горба.**
**А ў той торбе**
**Хлеб, пшаніца.**
**З кім ты хочаш,**
**Падзяліцца?**



## ПАЗНАЁМІМСЯ

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Каржа, 8, кв. 4. Ігар Данілюк, 5 клас.

* * *

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. К. Лібкнехта, 116, кв. 11. Таня Русецкая, 2 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 86, к. 2, кв. 7. Лёша Токараў, 5 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 86, к. 2, кв. 1. Віталь Канюхневіч, 4 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 86, к. 2, кв. 32. Дзіма Навацкі, 3 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, 2 пер. Р. Люксембург, 8, кв. 9. Оля Дылевіч, 5 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, 2 пер. Р. Люксембург, 8, кв. 17. Таня Паўлючэнка, 5 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 80, к. 3, кв. 28. Таня Парашкова, 5 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 25, кв. 10. Оля Омельчэнка, 5 клас.



**Падумай і адкажы: чаму гэты малюнак аўтар назваў „Сізіф перайшоў на механізацыю".**

**(Працяг са стар. 9)**

## ЧАРНАВОЧКА

**вала мяне, ды каб і пазнала не паверыла б вачам сваім, бо ў такім выглядзе і ў такім месцы сустрэцца са мной, вядома, не спадзявалася.**

**Я раптам апусціў рэвальвер.**

**— Ведаеце што, — кажу гестапаўцу: — Мне прыйшла ў галаву забаўная думка: навошта пляміць падлогу? Я ж магу зрабіць гэта на лоне прыроды, з дальняга прыцэлу. Тады атрымаю поўнае задаволенне.**

— Гэта можна, пан палкоўнік, — адказаў гестапавец. — Толькі дазвольце ўзяць узвод аховы.

— Навошта?

— Небяспечна без аховы за горадам...

Бачу, справа дрэнь. Згадзіцца на ахову, гэта значыць рызыкаваць і Чарнавочкай, і сваім жыццём. Праўда, мой прыезд ужо быў рызыкай. Аднак пакуль што я сяк-так спраўляюся са сваёй роляй. І тут я вырашыў: лепш рызыкаваць у кабінеце каменданта, дзе, апрача нас, нікога няма, чым пры ўзводзе салдат.

Я глянуў на свайго ад'ютанта Сашу. Гэта быў умоўны сігнал.

— Добра, — адказаў каменданту. — Возьмем ахову.

Гестапавец павесялеў.

— Калі загадаеце адправіцца?

— Праз пяць хвілін.

Ён казырнуў і адвярнуўся да тэлефоннай трубкі.

У гэты час камендант і асунуўся, як мяшок. Сашаў кінжал промаху не даў: трапіў якраз у такое месца, што абышлося без крыку...

— Пайшлі, Чарнавочка! — сказаў я сваім звычайным голасам.

Якое ўражанне зрабілі на яе мае словы, я не заўважыў, бо мы тут жа пакінулі кабінет.

Патруль, што стаяў на дварэ, узяў на каравул, прапускаючы важнага госця.

Машына наша была напагатове. Мы селі ў яе, і шафёр уключыў скорасць.

На гэтым Іван Рыгоравіч спыніў свой расказ. Абвёў вачыма клас: слухачы сядзелі не зварухнуўшыся.

Але тут раптам усе дружна загаманілі:

— Расказвайце, расказвайце далей, Іван Рыгоравіч! Настаўнік махнуў рукою, сцішыў шум.

— Далей было тое, аб чым вы ўжо здагадваецеся. Толькі, можа, крыху не зусім так, як вам здаецца. За горадам мы зноў трапілі ў небяспеку: патруль даў сігнал спыніць машыну... „Можа, паспелі аддаць загады на каравульныя пасты аб нашым арышце?" — мільганула ў мяне думка. Звычайнай праверкі я не баяўся — з маімі дакументамі можна было ездзіць, дзе хочаш. „Поўны ход!" — загадаў я шафёру. Не лёгка было мне аддаваць такі загад. Гэта значыла, што мы трапляем з агню ды ў полымя: у такім разе патруль мае права страляць. Ваяваць з ім не хацелася: наробіш лішняга шуму, а перад намі яшчэ вялікая дарога.

І калі мы праскочылі міма патруля, ён сапраўды адкрыў агонь. Потым я шкадаваў, што не знялі патруля адразу. А так... ад'ютанта майго Сашу мы дамчалі ў атрад з куляй у плячы... Але ўсё ж мы выратавалі любіміцу атрада. А чаму гэта мне ўдалося? На гэта пытанне адкажа нам Коля ў наступны раз.


Адрас рэдакцыі: „Зорка" 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1

3 суседскага агародчыка

## ВЯСЕЛЬНЫ АБРАД

Усе з нецярплівасцю чакалі. Жаніх чакаў абяцаную цесцем машыну, нявеста чакала дзіцяці, а маладыя разам са сваякамі чакалі загадчыка загса таварыша Урываева.

Спазніўшыся на паўгадзіны, Урываеў паспешліва агледзеў чарговую пару.

Сіні падлеткавы касцюм сорак шостага размеру ляжаў на жаніху прасторна, з запасам на будучае шчаслівае жыццё. На нявесце сукенка пяцьдзесят шостага размеру ледзь не лопалася ад шчасця.

„Гэтыя больш як год не працягнуць", — прафесіянальна заначыў сам сабе Урываеў і выпаліў завучаны экспромт:

— Дарагія маладажоны! Перш чым паставіць штамп на ваш шлюб і пажадаць доўгіх гадоў шчаслівага жыцця, у чым я абсалютна ўпэўнены, дазвольце прапанаваць вам новы вясельны абрад. Я маю на ўвазе рубку дроў для маладога і спавіванне дзіцяці для маладой. Напомню: з часоў каменнага веку рубка дроў з'яўляецца сімвалам спрытнасці і фізічнай сілы не толькі мужчын, але і жанікоў. Маладому прапануецца рассячы вось гэты цурбанок. Каб пазбегнуць цялеснага пашкоджання, нявесту папрашу стаць побач са свякрухай.

У жаніха падкасіліся ногі, калі ён убачыў вялізны асінавы цурбан.

Нявеста магутнай рукой падхапіла каханага і шапнула сведкам:

— Падтрымайце яго!

Яна ўзяла сякеру і з такой сілай ударыла па цурбане, што сякера прабіла асфальт і па самы абух увайшла ў зямлю. Адарваўшы конскую падкову, прыбітую да дзвярэй на шчасце, нявеста лёгка сагнула яе.

— Навошта гэтак, дачка, табе ж хутка ў дэкрэт, — ціха сказала маці.

— Ідзі спавівай лялльку, — тыцнула жаніха ў бок маладая.

— Іду, любая, іду, — пакрыўся той дзявочым румянцам.

Лялльку ён спавіў не горш за шматдзетную маці, густа пасыпаўшы, дзе трэба, тальцам і паклаўшы на месца падгузак.

Мужчыны дружна заапладзіравалі. Цешча праслязілася.

— Сіла мужчыны ў яго слабасці, — дрыготкім голасам заначыў свёкар.

Аркестр грымнуў вясельны марш Мендэльсона.

**Барыс Рабенькі**



# НІВА



— Выбачайце, але ў вас скончылася прынада.

— Калі яшчэ тыдзень ён не выбярэцца, трэба будзе прымаць нейкія меры.

## ПАЛЯЎНІЧЫ

Кастусь вяртаецца з палявання і кажа жонцы:

— Маланка, не купляй мяса цэлы месяц!

— Чаму? Упаляваў дзіка?

— Не, прапіў усю зарплату...

## БАЦЬКАВА АРЫФМЕТЫКА

— Ваш сын вучыцца ва універсітэце на першым ці на трэцім курсе?

— Мабыць, на трэцім, бо харчоў бярэ з дому ў тры разы больш, чым браў спачатку.

## ПАРАІЎ

Прадаўшчык падаў пакупніку недаліты кухаль піва.

— Чаму ж так мала? — здзіўлена спытаў пакупнік.

— Мала?! Дык бяры яшчэ адзін кухаль.

## НАШЫ ДЗЕЦІ

Валодзю папрасілі вытлумачыць розніцу паміж садавінай і гароднінай.

Малы задумаўся:

— Садавіна — гэта калі смачна, а гародніна, — калі карысна.



Мне падабаецца, калі без цырымоній, але з падарункамі.

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

— Што з вамі здарылася, сіньёр Антоніо? — пытаецца Джардана ў суседа, які выходзіць з дому на мыліцах.

— Трапіў у аварыю.

— І цяпер не можаце без мыліц хадзіць?

— Чорт яго ведае! Доктар кажа, што магу, а адвакат сцвярджае, што не.

*

Адзін багаты амерыканец расказвае прыяцелю:

— Сваёй нявестцы я сказаў, каб мой дом лічыла сваім...

— Ну і што?

— Яна ўчора яго прадала.

*

Дырэктар водзіць прадстаўнікоў канцэрна па прадпрыемстве і ў адным цэху паказвае:

— Вось гэты станок замяняе пяць рабочых!

— А хто яго абслугоўвае?

— Восем інжынераў.



— Калі вы абяцаеце не рабіць шмат шуму, а праўду вас да ракі.

З „Весніка Задрыпоніі"

## ПАЗНАЁМІМСЯ

Спадзяюся сустрэць цікавую дзяўчыну 20-28 год, рост 165-175 см, прыстойную, са спакойным і добразычлівым характарам.

Аб сабе: мне 28 год, рост 176 см, адукацыя вышэйшая, знешнасць сярэдняя. Сур'ёзны, скромны, без шкодных звычак, люблю кнігі, хатнюю ўтульнасць, жонку і двух сыноў.



Стымулятар храбрасці.

## БЫЛО МАЛА

Суддзя звяртаецца да задрыпанца:

— Устаноўлена, што вы тройчы ўдарылі пана Задрыпкоўскага па галаве. Можаце да гэтага што-небудзь дабавіць?

— А што, яму не хапіла? — здзіўляецца задрыпанец.

## АГУЛЬНАЯ ЎВАГА

— У нашай канторы ўжо другі дзень усе мужчыны бесупынна глядзяць толькі ў мой бок.

— Чаму?

— Бо ўчора я перасела за пісьмовы стол, над якім вісіць гадзіннік...



— Ох, ужо гэтыя людзі!

# Курʼёзы

## БЕЛЫМ ПА ЧОРНАМУ

Калі 17 гадоў назад у сям'і бразільскага паліцэйскага Флавіа Да Сілва нарадзілася дачка, бацька моцна засмуціўся: ён чакаў сына і амаль наяве ўжо бачыў яго бліскучым ваенным.

І ўсё ж лёс злітаваўся над паліцэйскім і надзяліў дзяўчыну здольнасцямі палкаводца. Гэта выявілася зусім нядаўна...

У Рыо-дэ-Жанейра з'явілася асацыяцыя „былых мазіл". Хлопчыкі, якія сталі яе членамі, у мінулым старанна пэцкалі гарадскія сцены. Свае малюнкі яны прысвячалі футболу, каханню і... чужому глупству. Але „маляўнічая ліхарадка прайшла", — гаворыць Робсан Алвеш, 16-гадовы прэзідэнт асацыяцыі. „Мы будзем ачышчаць горад", — заяўляе ён. І дзеці замазваюць уласныя пэцканні белай фарбай...

Бразільскі часопіс „Вежа" тлумачыць цудоўнае пераўтварэнне: гонар стварэння асацыяцыі належыць Флавіі — дачцэ паліцэйскага. Ёй удалося абразуміць больш як 150 мазіл.




На жаль, яшчэ не ўсе людзі навучыліся гаварыць па-чалавечы.